# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЛІПЕНЬ 19 Панядзелак

№ 134 (569)

Цана 5 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### Семинар «быстрого реагирования»

Виталий ЧУЯСОВ.

В МИНСКОМ Доме офицеров закончил свою работу семинар «Экономико-правовые аспекты предпринимательства и правовая защита хозяйственных субъектов в судебных органах».

Как сообщила в эксклюзивном интервью корреспонденту РИДа непосредственный организатор встречи, директор Центра социально-правовой информации и обучения Союза юристов РБ Любовь Грицкевич, несмотря на определенную специализацию, подобные семинары нам необходимы. В условиях, когда правовая основа предпринимательства изменяется буквально каждый день, такие встречи являются своеобразным средством реагирования юристов на эти процессы.

Свидетельством той важности и внимания, которое уделялось семинару, может служить факт участия в нем президента Союза предпринимателей г-на Кунявского, директора Департамента цен при Госэкономплане РБ Владимира Михасева и первого заместителя председателя Высшего хозяйственного суда Александра Киселева.

Интересным также является и то, что более половины из почти 130 участников семинара — представители частного бизнеса Беларуси.

### НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК...

«АДБЫЎСЯ няшчасны выпадак, ад якога не застрахаваны ніхто» — так супрацоўнікі службы інфармацыі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь пракаменціравалі карэспандэнту БЕЛІНФАРМА паведамленне аб трагічнай смерці начальніка ўпраўлення знешняй разведкі КДБ Міхаіла Жукаўца.

Справа перададзена ў мінскую гарадскую пракуратуру. Яе следчыя паведамілі, што па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

БЕЛІНФАРМ.

□ ФОТАФАКТ

### ЯКІ НАМ ПАТРЭБЕН ПЛЮРАЛІЗМ?

Юрый ЗАХАРАЎ, «ДВ». Фота аўтара.

У МІНУЛУЮ пятніцу некалькі дзесяткаў чалавек сабраліся каля Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Яны ад рэспубліканскай рады руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць пікетавалі, каб прыцягнуць увагу кіраўнікоў міністэрства на факты адступлення сродкаў масавай інфармацыі ад прынцыпаў плюралізму.

— Можа, трэба, — як сказала пікетчыкам пажылая жанчына, — не стаяць пад рознымі сцягамі і плакатамі, а працаваць...

□ ВЫСТАВЫ

### УСЯ ЕЎРОПА – У АДНОЙ ЗАЛЕ

Міхась ВАЛЬКОЎСКІ.

ПАД КУПАЛАМ Мінскэкспа (пр. Машэрава, 14) была размешчана прадукцыя вядучых фірм 13 краін Заходняй Еўропы і Індыі. Але на флагштоках было пуста, не было сцягоў краін-удзельніц. Бо ўсе экспанаты прадстаўляў шматпрофільны міжнародны канцэрн Белінтэкс на аднайменнай выставе «Белінтэкс-93», якую адкрылі прэзідэнт канцэрна сп.Купецкі і прэзідэнт гандлёва-прамысловай палаты краіны сп.Лясун.

Мэта выставы — прадэманстраваць магчымасці канцэрна па ўстанаўленню кантактаў для атрымання тавараў і новых тэхналогій з краін Заходняй Еўропы і з Індыі.

Мяркуючы па прадстаўленых экспанатах, магчымасці гэтыя даволі шырокія. Аўтамабіль «Reno-19», тэлевізары і аўдыётэхніка фірмы «Tomson», бытавая тэхніка «Philips», англійскія маразільнікі, індыйская гарбата і вырабы са скуры, адзенне, абутак, парфума, прадукты харчавання — усяго не пералічыць. Акрамя гэтых экспанатаў, увагу наведвальнікаў выклікала выстава карцін самадзейнага мастака — аднаго з супрацоўнікаў канцэрна.



### ВЫРАТУЙЦЕ НАС, ВАША ВЯЛІКАСЦЬ!

Вераніка БЯГУН.

СВЯТАСЛАЎ Рыхтэр любіць прыязджаць у Мінск. Ужо сталі добрай традыцыяй яго канцэрты ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, якія ён дае ў апошні час практычна кожныя паўгода. Для журналістаў Святаслаў Тэафілавіч недаступны, але вядома, што да мінскай публікі ён адносіцца з асаблівай павагай — таму і радуе яе так часта сваім геніяльным майстэрствам.

Напярэдадні апошняга канцэрта, які адбыўся ў Мінску 14 ліпеня, ніхто не мог сказаць, з якой музыкай прыедзе да нас маэстра на гэты раз. Аб яго планах не ведалі нават у Міжнародным культурным цэнтры Расіі, што падрыхтаваў мінскім паклоннікам Рыхтэра бясцэнны падарунак. Піяніст, які стаў гордасцю ўсяго чалавецтва, непрадказальны.

Ён прысвяціў гэты канцэрт 150–годдзю з дня нараджэння Эдварда Грыга. Слухачы мелі гонар суперажываць рыхтэраўскай інтэрпрэтацыі дваццаці дзвюх п'ес вялікага нарвежца.

Той, хто чуў Святаслава Рыхтэра хоць аднойчы, можа лічыць сябе выратаваным. Бо толькі сустрэча з геніяльным дапамагае ўзвысіцца над той рэчаіснасцю, дзе білет на канцэрт піяніста ўсіх часоў і народаў каштуе роўна столькі ж, колькі кілаграм бананаў самай нізкай якасці, якімі гандлююць побач з філармоніяй.

## У МЫТНІ СВАЯ «АКАДЭМІЯ»

У БЕЛАРУСКІХ мытнікаў паявілася свая навучальная ўстанова і не адна, а адразу некалькі. Заключаны дагавор з Акадэміяй кіравання пры Савеце Міністраў, дзе арганізаваны месячныя курсы і ўтворана паўтарагадовая школа пры вышэйшых курсах Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі. Гэтыя факты прывёў на праведзенай 15 ліпеня прэс–канферэнцыі старшыня дзяржаўнага мытнага камітэта Генадзь Шкурдзь.

У сваім выступленні ён адзначыў, што на сённяшні дзень у рэспубліцы функцыяніруе 20 мытняў і 51 мытны пост, на якіх працуе каля 4 тысяч чалавек.

Каб паскорыць праходжанне мытнага надгляду, спецыялісты камітэта шукаюць новыя формы супрацоўніцтва са сваімі калегамі з суседніх рэспублік. Так, мытнікі Беларусі і Польшчы пачалі падрыхтоўку праекта пагаднення па сумеснай рабоце. Нядрэнна складваюцца адносіны і з мытнымі службамі Расіі і Украіны, на граніцы з якімі ўстаноўлены мытныя пасты. На іх нясуць службу супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі.

Аб іх дзейнасці расказаў намеснік міністра ўнутраных спраў Канстанцін Платонаў. Звяртаючыся да журналістаў, ён сказаў, што на арганізацыю работы перасовачных міліцэйскіх пастоў урад затраціў толькі 10 мільёнаў рублёў. Але гэта дапамагло вярнуць у дзяржаўную казну больш як 2,5 мільярда. Выконваючы Закон рэспублікі аб абароне спажывецкага рынку, работнікі праваахоўных органаў выявілі каля 12,5 тысячы парушэнняў.

БЕЛІНФАРМ.

□ КРЫМІНАЛ

## БЫЛО ПАЛЯВАННЕ. АПЕРАТЫЎНІКІ ШУКАЛІ ЗАБОЙЦУ, ЗАБОЙЦА – СВЕДКУ

У ПЕРШЫХ днях ліпеня ў сваёй кватэры быў знойдзены труп К. Не па ўласнай волі, а пасля паўтара дзесяткаў нажавых раненняў адправіўся на той свет мінчанін. Аб нябожчыках, як вядома, дрэнна не гавораць, аднак трагедыі магло не быць, калі б К. праявіў асцярожнасць пры знаёмстве з невядомым яму мужчынам. Тады б не давялося рызыкаваць сваім жыццём маладым хлопцам з аператыўна-пошукавага аддзела УУС Мінгарвыканкама, якія знайшлі забойцу, які, дарэчы, ужо знаходзіўся ў вышуку за менш цяжкае злачынства. Трэба адзначыць, што прафесіяналізм аператыўнікаў выратаваў ад смерці галоўнага сведку злачынства, на якога ўжо ішло паляванне.

■ ДЗЕЛАВЫ МІНСК

## ДЛЯ РАШЭННЯ ІНАВАЦЫЙНЫХ ПРАБЛЕМ СТВОРАНЫ ФОРУМ

**У КАНЦЫ мінулага тыдня ў Мінску створаны Беларускі інавацыйны форум Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Гэты форум — рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне грамадзян, створанае на добраахвотных асновах на падставе агульных інтарэсаў.**

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Ініцыятары стварэння Беларускага інавацыйнага форуму Сярэдняй і Усходняй Еўропы — прэзідэнт аналагічнага інавацыйнага форуму Рэспублікі Літва прафесар, доктар эканамічных навук К.Прунскене, першы намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі М.Мясніковіч, прэзідэнт БСПІА, прафесар, доктар эканамічных навук М.Куняўскі, акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук АН Беларусі Г.Лыч, дырэктар НІЭД Дзяржплана Беларусі кандыдат эканамічных навук Л.Крукаў і іншыя. Усяго заснавальнікаў форуму 51 чалавек: навукоўцы, прадпрымальнікі, дзяржаўныя дзеячы, дэпутаты Вярхоўнага Савета. Выбраны савет форуму з 17 чалавек, які пазней выбера прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта.

Як паведаміў адзін з заснавальнікаў форуму прафесар М.Куняўскі, галоўная мэта стварэння гэтай структуры ў тым, каб у рэспубліцы на практыцы паспяхова ажыццяўляліся праекты, накіраваныя на паскарэнне рынкавых рэформ. На яго думку, дасягнуць гэтага можна праводзячы экспертызу інвестыцыйных праектаў сумесна айчыннымі і замежнымі спецыялістамі. Інвестыцыйныя праекты, падрыхтаваныя толькі заходнімі спецыялістамі, часам бываюць малаэфектыўнымі пры іх рэалізацыі ў нашай рэспубліцы, бо не ўлічваюць яе спецыфіку. Форум прызваны аб'яднаць усе інтэлектуальныя сілы рэспублікі для рашэння практычных інавацыйных праблем, аналізу ажыццяўлення эканамічных рэформ у Рэспубліцы Беларусь і іншых краінах, пошуку і прыцягнення новых інвестараў у эканоміку. Сярод бліжэйшых для экспертызы і ажыццяўлення сп.Куняўскі назваў праекты развіцця сталічных гарадоў новых дзяржаў, па эканоміі энергарэсурсаў, структурнай перабудове эканомікі. Грошы для іх рэалізацыі будуць атрыманы па крэдытных лініях, прадстаўленых заходнімі краінамі.

Экс-прэм'ер Літвы Казіміра Прунскене ўзначальвае такі ж форум у Рэспубліцы Літва. У актыве яго — рэалізуемыя ўжо праекты аграрнай рэформы, па мадэрнізацыі транспартнай сістэмы краін Балтыйскага рэгіёна, якія разлічаны на некалькі гадоў. Яна вельмі зацікаўлена ў фарміраванні рэгіянальных сувязей, прыярытэтнаму развіццю Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна. Наступным пунктам у яе праграме — Кіеў, дзе будзе таксама ствараццa інавацыйны форум. Спадарыня Прунскене назвала праекты, у рэалізацыі якіх зацікаўлены ўсе незалежныя краіны: развіццё транспарту, энергасістэм і па энергазберажэнню, рэканструкцыі дамоў і новаму жыллёваму будаўніцтву. Для рэалізацыі гэтых праектаў магчыма атрымаць льготныя крэдыты ў салідных інвестараў. Аб'яднанне намаганняў розных краін дазволіць больш якасна праводзіць распрацоўку, экспертызу і кансультаванне па інвестыцыйных праектах, праграмах структурных пераўтварэнняў.

■ ЭХО СОБЫТИЯ

ТОРЖЕСТВЕННОЕ открытие памятника Неизвестному солдату состоялось в Минске. Несмотря на тяжелое финансовое положение, Ленинский райисполком все же выделил деньги на изготовление и установку обелиска. Ведь, как говорится, война не закончена до тех пор, пока не похоронен последний погибший.

На открытие собрались не только ветераны Великой Отечественной, но и школьники, воины Н–ской части.

НА СНИМКЕ: цветы Неизвестному солдату.

Фото Виктора ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.

■ ФУТБОЛ: ЧЕМПИОНАТ БЕЛАРУСИ

## АЙ ДА «ШИННИК»!

Виктор ИЗОТОВ, «ДВ».

«Шинник» выиграл у могилевского «Днепра» — 2:0. Этот результат следует признать самым сенсационным в стартовавшем в минувшие выходные 3-м чемпионате Беларуси по футболу. Бобруйчане, кстати, дебютанты 1-й лиги, полностью переиграли своих грозных соперников. Результаты других встреч первого тура: «Фандок» — «Неман» — 0:0 (упорная, вязкая борьба), «Гомсельмаш» — «Ведрич» — 2:0 (Юсипец снова в Гомеле и забил уже гол), «Шахтер» — «Строитель» — 3:0 (полное преимущество хозяев поля), «Локомотив» — «Молодечно» — 1:0 (играли по принципу: «кто забьет первым, тот и выиграет»), «Торпедо» (Могилев) — КИМ — 0:0.

Подробнее об играх с участием минских команд. «Торпедо» (Минск) — «Динамо» (Минск) — 1:2.

Игра была не очень интересной, если бы не действия на поле двух «Г» — Гуриновича в составе «Торпедо» и Герасимца в составе «Динамо» — можно было бы просто заснуть. Игорь забил потрясающий гол и выдал множество изумительных по точности пасов, а Сергей весь матч «водил за нос» оборону автозаводцев.

«Динамо» (Брест) — «Динамо-93» (Минск) — 0:1. Гости увереннее действовали как в защите, так и в нападении. Это и сказалось на итоговом результате. А гол на счету Качуро. Омрачило победу поведение некоторых минских футболистов, частенько выражавших свое недовольство действиями арбитра. Порою это принимало для судей весьма оскорбительную форму, как-то покручивание пальцем возле виска. Примечательно, что не лучше вел себя и тренер команды Кузнецов.

Матчи второго тура пройдут 23-24 июля. В пятницу «Динамо-93» принимает «Фандок», на следующий день «Динамо» (Минск) сыграет дома с торпедовцами Могилева, а минские торпедовцы поедут в гости к «Ведричу».

## КАЛЯНДАР

Панядзелак, 19 ліпеня.
СОНЦА — 5.01/21.29.
Даўжыня дня — 16.28.
МЕСЯЦ — маладзік 14.24,
усход 4.56/ захад 21.04.

ІМЯНІНЫ

Сёння:

Праваслаўныя — Сысоя. Знаходжанне мошчаў праведнай дзевы Юліяніі, княжны Альшанскай (16 ст.).

Каталіцкія — Вадзіслава, Вінцэнта.

Заўтра:

Праваслаўныя — Еўдакіі, Фамы.

Каталіцкія — Маргарыты, Чэслава.

■ ТРАНСПОРТ

## АВТОВОКЗАЛ «ЦЕНТРАЛЬНЫЙ»: БЕЗ ОЧЕРЕДЕЙ И НЕРВОТРЕПКИ

**Не так давно после ремонта открылся первый этаж автовокзала «Центральный». Просторнее внутри старого здания, конечно, не стало, но уютнее, современнее — да, а главное, благодаря установке специального оборудования, обслуживают пассажиров здесь сейчас в несколько раз быстрее.**

Ольга Жарина, «ДВ».

— Еще в 1991 году мы начали вводить автоматизированную систему управления по обслуживанию пассажиров билетами, — рассказывает директор автовокзала Н.И.РУСАКОВИЧ. — Тогда компьютеры появились в предварительных кассах. В прошлом году к этой системе подключился автовокзал «Восточный», сейчас подошла очередь «Центрального».

Преимущества такой работы уже оценили и пассажиры, и наши служащие: скорость, удобство, а значит — нет очередей, нервотрепки. Машина уже не выдает два билета на одно место, что случалось у нас раньше. При наличии мест клиент может выбрать себе любое, по вкусу, что прежде тоже было невозможно. Принимаются заказы и по телефону.

Раньше на «Центральном» вокзале не было предварительной продажи билетов, а установка компьютеров позволила оказывать и этот вид услуг.

Автоматизированная система значительно облегчила и работу кассиров, сейчас некоторые из них успевают за день обслужить до 900 человек. Прежде такое было немыслимо.

— Николай Иванович, когда вы только начали работать с компьютерами, поговаривали, что билеты очень легко подделать...

— На билетах есть специальный код, который содержит шифр кассы, дату, время продажи и другую информацию. Это уже защита от подделки. Кроме того, сведения о билетах, проданных через компьютер, передаются водителю перед отправлением в рейс и можно легко обнаружить фальшивку.

— Пассажирам междугородных рейсов теперь хорошо. А чего ожидать тем, кто пользуется пригородным транспортом?

— Со временем на автоматизированную систему обслуживания перейдут и пригородные автостанции.

— Пользуясь случаем, хочу узнать, не поменяются ли в ближайшее время цены на билеты?

— С 1 июля топливо подорожало на 50 %, но цены пока остались прежние. Надолго ли — не знаю.

Кстати, у меня есть интересная информация для минчан. Уже около года с «Восточного» автовокзала ежедневно отправляются три рейса Минск — Варшава. А недавно мы открыли 2 новых маршрута на Гданьск и Краков, пока по одному автобусу в неделю. Так вот, стоимость проезда здесь дешевле, чем на железной дороге. Например, чтобы доехать поездом до Кракова, надо заплатить 24 доллара и 5 тысяч рублей, мы берем — 15 тысяч рублей и 1 доллар (на страховку автобуса). Автобилет до Варшавы стоит 8 тысяч и 1 доллар. Бесплатно можно провозить до 30 кг груза. Так что приглашаем минчан в поездки.

## Свежие Новости Городов СНГ

САНКТ–ПЕТЕРБУРГ

### Средства от аукциона – в поддержку балета

Огромная коллекция произведений искусства, принадлежащая известному танцовщику Рудольфу Нуриеву, будет выставлена на аукционе «Христихауз» в начале зимы. Ее стоимость оценивается специалистами в 7 миллионов долларов. Сюда входят живописные полотна, гобелены XIX века, китайские вазы и другие ценности.

Помимо коллекции наследство Нуриева насчитывает дома на южном побережье Франции и на Карибских островах, ферму в Вирджинии, апартаменты в Париже с окнами на Лувр и др. стоимостью в общей сложности около 30 миллионов долларов. Оставшийся на Западе во время гастролей балетной труппы Кировского театра в 1961 году, Нуриев начинал практически без цента в кармане. В пике своей славы он был самым высокооплачиваемым танцовщиком в мире.

Средства от аукциона пойдут Фонду содействия балета, находящемуся в Лихтенштейне, и нью-йоркскому Фонду Рудольфа Нуриева на выдающиеся проекты в области классического танца и медицинские исследования.

МОСКВА

### Радиация вокруг Москвы

Употреблять в пищу хлеб, мясо, овощи и фрукты, произведенные в областях, прилегающих к Московской, как недавно выяснилось, крайне опасно: эти продукты радиоактивно заражены.

По сведениям Госкомчернобыля России, уже семь лет выявляются новые участки, пораженные радиацией. Гибельна не только известная «Чернобыльская зона». В Калужской, Тульской, Орловской областях выявлено нынешним летом устойчивое радиационное загрязнение: от 5 кюри (Орел) до 15 (Калуга). Местным жителям настоятельно рекомендуется питаться только привозными продуктами. На дезактивацию и выплату компенсаций населению этих регионов уйдет львиная доля из 418 миллиардов рублей, выделенных в 1993 году на устранение последствий чернобыльской катастрофы.

### Арбат готовится «гульнуть»

Небывалый по своему размаху праздник решили провести московские власти в связи с 500–летием Арбата, которое отмечается в этом году. Готовятся грандиозные и помпезные мероприятия с участием знаменитостей и зарубежных гостей. Оргкомитет по чествованию Арбата возглавил мэр Москвы Юрий Лужков. На обсуждение властей представлен проект программы предстоящих торжеств. Дата проведения праздника уточняется.

КИЕВ

Социалистическая партия Украины обнародовала план политических мер по преодолению социально–политического кризиса в республике. СПУ считает необходимым созыв не позднее сентября Всеукраинского съезда (конференции) представителей Советов всех уровней с целью выработки решений, которые должны рассматриваться всеми ветвями власти «как волеизъявление народа», разработки и принятия на переходный период жизни общества Конституционного закона Украины и на его основе — закона о выборах. СПУ также поддержала идею проведения референдума о доверии президенту и нынешнему составу ВС Украины.

По сообщениям РИД.

ДЗЕЛАВЫ МІНСК

# ЁСЦЬ ПРАГРАМА, БУДУЦЬ І ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ

М.ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Прадпрымальных людзей на Беларусі не менш чым у іншых краінах. Але рэалізаваць свае здольнасці Ім часам цяжэй. Бо на словах усе прызнаюць неабходнасць і важнасць новай справы. Але калі даходзіць да самой справы — быццам у сцяну ўпіраецца звычайны грамадзянін-прадпрымальнік, які не мае ні вялікіх сувязей, ні багатага вопыту.

Тыя, хто імкнецца ў бізнес, адзначаюць наступныя цяжкасці: адсутнасць або недахоп сродкаў для адкрыцця і рэгістрацыі ўласнага прадпрыемства, складанасці з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем, вытворчымі плошчамі і гэтак далей. У выніку гэта і прыводзіць іх галоўным чынам да пасрэдніцкай дзейнасці замест вытворчасці.

Каб парушыць такую тэндэнцыю, стварыць спрыяльныя ўмовы для фарміравання цывілізаванага прадпрымальніцтва, Мінскі выканкам гарадскога Савета народных дэпутатаў распрацаваў праграму развіцця прадпрымальніцкай дзейнасці ў горадзе. Яна грунтуецца на існуючых законах, у ёй сфарміраваны мэты і задачы, распрацаваны асноўныя прынцыпы, прыярытэты і этапы развіцця. Дакладна акрэслены дзейсныя меры па развіццю прадпрымальніцкай дзейнасці ў горадзе, уключаючы стварэнне нарматыўна-прававой базы, эканамічную падтрымку, фарміраванне неабходнай рынкавай інфраструктуры, кадравае забеспячэнне і гэтак далей. Праграма накіравана на фарміраванне станоўчых адносін грамадства да цывілізаванага прадпрымальніцтва, прыцягнення да яго сацыяльна-актыўных слаёў гарадскога насельніцтва.

На першым этапе яна зарыентавана на прыярытэтнае развіццё малых прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара, дзейнасць якіх звязана з вырашэннем уласных праблем горада. Мяркуецца, што да 1995 года будзе назірацца хуткі рост колькасці такіх прадпрыемстваў, складзецца ўстойлівае канкурэнтнае асяроддзе.

У Мінску і яго адміністрацыйных раёнах на першым этапе будуць арганізаваны цэнтры падтрымкі малых форм бізнесу, інфармацыйныя цэнтры, фонды фінансавай падтрымкі малых прадпрыемстваў (таксама будуць распрацаваны Праграмы развіцця прадпрымальніцтва ва ўсіх адміністрацыйных раёнах горада). Другі этап разлічаны да 2000 года. Чакаецца, што на гэтым этапе ў выніку стварэння спрыяльных умоў для развіцця прадпрымальніцтва малы і сярэдні бізнес значна павялічаць аб'ёмы вытворчасці і, у першую чаргу, тавараў народнага спажывання і паслуг.

Праграмай прадугледжаны прыярытэтныя накірункі развіцця прадпрымальніцтва на кожным этапе. У бліжэйшы час прыярытэт будзе аддадзены выпуску асобных відаў тавараў народнага спажывання і прадастаўленню паслуг насельніцтву, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і садзейнічанне рашэнню жыллёвай праблемы, рэканструкцыі камунальнай гаспадаркі і гэтак далей.

Плануецца ўдасканаліць прававую базу, максімальна спрасціць рэгістрацыю прадпрымальнікаў, павысіўшы адказнасць за яе парушэнне. Праграма дэталёва разглядае фінансавую падтрымку, ільготнае падаткаабкладанне, рэсурснае забеспячэнне прадпрымальніцкай дзейнасці, стварэнне неабходных элементаў рынкавай інфраструктуры і адпаведнага арганізацыйнага механізма кіравання гэтым працэсам.

Адзначаючы важнасць і своечасовасць распрацоўкі праграмы, выкажам пажаданне, каб яна не засталася толькі на паперы, а была рэалізавана хутка і ў поўным аб'ёме. Бо праграма добрая, але трэба, каб ужо ў гэтым годзе дэпутаты гарсавета яе прынялі, а выканаўчая ўлада пачала актыўна ажыццяўляць.

ДЕФИЦИТЫ

# БУДЕМ С САХАРОМ?

**На сегодняшний день в республике получено лишь около 13 тысяч тонн сахара-сырца для промышленной переработки — капля в море для четырех белорусских «сахарных» предприятий. Следовательно, все надежды сейчас — на сахарную свеклу.**

**Как сообщил корреспонденту РИДа сотрудник управления растениеводства Минсельхозпрода республики Федор Иванович Фоминчик, под эту культуру в нынешнем году в Беларуси занято почти 55 тысяч гектаров площадей, что на 3,7 тыс.гектаров больше прошлогоднего. Поэтому есть надежда, что производственное задание накопать 1 миллион 300 тысяч тонн сладких корней (против миллиона тонн в минувшем году) будет выполнено, и без сахара мы не останемся.**

Анатолий РОМАНОВИЧ, РИД.

БИЗНЕС

# Уже 85 тысяч...

Сколько людей в республике занимается предпринимательской деятельностью? За ответом на этот вопрос корреспондент РИДа обратился к главному специалисту республиканского управления налогообложения граждан А.В.Полякову.

— К сожалению, данных за текущий год еще нет, но весьма любопытны цифры за 1992 год. Так, в прошлом году по республике предпринимательством занималось свыше 85 тысяч человек, причем около 15 тысяч приходилось на столицу. Кроме того, за 1992 год было выявлено около 20 тысяч «деловых» нарушителей закона. Поэтому, учитывая постоянно растущую «коммерциализацию» общества, можно смело предположить, что в нынешнем году эти цифры будут значительно выше, — ответил А.В.Поляков.

Анатолий РОМАНОВИЧ, РИД.

ТАКОВА ЖИЗНЬ

А КОГДА ОН КОЗЛЁНОЧКОМ БЫЛ, ТО „ЗДРАСТЕ" ГОВОРИЛ...

Рис. Леонида КОЛОДИНА.

ФОТАРЭПАРТАЖ

# ЖЫЦЦЁ ДАЕЦЦА ТОЛЬКІ РАЗ...

Валерый ШЫХАНЦОЎ і Анатоль КАЛЯДА (фота).

**Як ні дзіўна, а злачыннасць у 90-я гады ўзрасла настолькі, што, магчыма, нават перавысіла тыя рэкорды, пра якія пісалі браты Вайнеры ў вядомым рамане «Эра міласэрнасці», па якім быў зняты пяцісерыйны мастацкі фільм «Месца сустрэчы змяніць нельга», дзе з бандай «Чорнай кошкі» змагаліся Уладзімір Высоцкі і Уладзімір Конкін.**

**Але ж гэта было адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны, калі і быў разгул злачыннасці, як, дарэчы, і пасля рэвалюцыі 1917 года.**

**А што тычыцца сённяшняй злачыннасці, то здзіўляе той парадокс (а можа нейкая заканамернасць ці праява нашага жыцця) — усё болей жанчын становяцца на гэты шлях. Многіх з іх мы з фотакарэспандэнтам Анатолем Калядой бачылі ў адзінай на Беларусі жаночай калоніі. Яна знаходзіцца на ўскрайку Гомеля.**

**Там ёсць дом дзіцяці, дзе шчырыя, добрыя людзі гадуюць тых малых, якія не былі на волі з дня свайго нараджэння, якія бачаць плот вакол невялікага дворыка і — дрот...**

**Там ёсць блок № 10, дзе «бавяць» час дзяўчаткі, якім усяго па 15–17 год...**

**Там ёсць забойцы, алкагалічкі, махляркі і...**

**Там дваццаць жанчын, якія забілі сваіх маленечкіх дзіцятак...**

**Розным быў іх жыццёвы шлях. Па розных артыкулах крымінальнага кодэксу яны прыходзілі ў зону. (На жаль, сярод малалетак ёсць і такія, хто трапіў сюды па другой «ходцы»).**

**Усявышні ім усім суддзя! Калі даруе...**

**У калоніі дастаткова жыхарак Мінска — і старых, і маладых. Адна з іх, Марына, расказала мне аб сваім лёсе.**

— У 1991 годзе сяброўка сцягнула ў мяне кашалёк, у якім было 200 рублёў. Грошы па тым часе немалыя, ды яшчэ і ўсе карткі харчовыя былі там. А жыць неяк трэба было, бо Волечцы маёй пайшоў толькі дзевяты месяц. Я забрала ў сяброўкі тэлевізар і сказала ёй: «Вернеш тое, што ўзяла ў мяне, — атрымаеш назад тэлевізар». Скончылася ўсё вельмі сумна: супраць мяне была ўзбуджана крымінальная справа. Калі прыйшла позва, я вельмі перапалохалася і збегла з дачкой да брата. У жніўні таго ж года прыехала да бацькі і ў магазіне мяне затрымалі работнікі міліцыі. Змясцілі мяне ў Ізалятар, а дачку накіравалі ў 1-ю клінічную бальніцу. Следчы прыйшоў да мяне ў Ізалятар толькі праз тры месяцы. Супакоіў, што я атрымаю толькі ўмоўную меру пакарання, а дачка пабудзе пакуль у бальніцы. У лістападзе мяне выклікалі і кажуць: «Фрунзенскі раённы аддзел народнай адукацыі падаў на цябе паперы на пазбаўленне бацькоўскіх правоў». Матывіроўка была такая: не наведвае ўжо паўгода сваё дзіця. Параілі: напішы тлумачэнне, што знаходзілася ў Ізалятары і таму не магла наведваць Олю. У снежні мне далі тры гады, а дачку накіравалі ў Дом дзіцяці № 2. Я напісала касацыйную скаргу і з мяне знялі паўгода (менавіта з-за маленькага дзіцяці). Потым прыйшла позва на 11 лютага 1992 года. Я зноў напісала скаргу пракурору. Неўзабаве мне сказалі, што суд аб пазбаўленні мяне бацькоўскіх правоў нібыта адменены. У маі 1992 года трапіла ў Гомельскую жаночую калонію. Галоўны ўрач тутэйшага дома дзіцяці Аляксандр Міхайлавіч Сабалеўскі мяне ўжо добра ведаў — я тут раней адбывала тэрмін пакарання: атрымала тады паўтара года за неданясенне — сужыцель павінен быў здзейсніць крадзеж, а я пра гэта не паведаміла. А.М.Сабалеўскі дапамог, каб Вольга трапіла сюды. Гэта адбылося напрыканцы ліпеня. Было ёй тады амаль два гады. У сакавіку гэтага года Сабалеўскі выклікаў мяне і сказаў, што ў лютым 1992 года я была пазбаўлена бацькоўскіх правоў. Але ж ён забіраў яе ў ліпені? У чым справа? Заднім чыслом, ці што, афармілі? Атрымліваецца, што Оля не мая дачка, а дзяржаўная. Мне засталося ўсяго некалькі месяцаў да выхаду на волю, а я не хачу ісці адсюль, баюся, што на волі ў любы момант дачку могуць адабраць. Так, я здзяйсняла злачынствы, так, я была дрэнная маці, але нашто пра ўсё гэта гаварыць зараз?

***

Вось такая своеасаблівая споведзь. Ёсць у ёй, безумоўна, некаторыя спрэчныя моманты і пытанні. Некаторыя з іх я хацеў бы адрасаваць Фрунзенскім раённым аддзелу народнай адукацыі і народнаму суду. Але і не магу ўмаўчаць пра тое, што, калі Марына першы раз трапіла ў калонію, быў у яе сын Ігар, 1986 года нараджэння, на якога яна была пазбаўлена бацькоўскіх правоў (раджала яго тут, у зоне). Потым ёй паведамілі (па словах Марыны), што ён памёр.

Гісторыя паўтараецца? Ці, наадварот, выпадак з другім дзіцем Марыны набывае новыя адценні? Не бяруся меркаваць. Бог нам усім суддзя, і Марыне таксама. Спадзяюся, што ў Фрунзенскім раёне дапамогуць нам дэталёва разабрацца ва ўсім тым, што адбылося. Але і зараз ужо бачна, што гісторыя гэтая вельмі і вельмі няпростая, і было б неразумна з майго боку неабдумана меркаваць аб усім, абапіраючыся толькі на эмацыянальную споведзь Марыны. Шмат тут недакладнасцей, неадпаведнасцей, супярэчнасцей.

Адно магу сказаць: не ва ўсякім лёсе, не ва ўсякай жыццёвай калізіі можна разабрацца з такой жа хуткасцю, лёгкасцю і абсалютнай упэўненасцю ў сваёй справядлівасці, як гэта рабілі славута вядомыя Шэрлак Холмс і Эркюль Пуаро. І не ўсё так проста ў некаторых сітуацыях, як гэта можа падацца на першы погляд. Ва ўсякім разе, менавіта ў калоніі я пераканаўся лішні раз у тым, наколькі недасканалыя нашы законы, наколькі яны заімшэлі з моманту свайго прыняцця. Літара закону іншы раз перамагае здаровы чалавечы сэнс толькі таму, што абапірацца на яе судовым выканаўцам вельмі надзейна — ніхто не папракне самастойнасцю ў выбары рашэння. Можа, я настроены занадта агрэсіўна ў адносінах да судовых работнікаў (канешне ж, ні ў якім разе не маю на ўвазе пераважную іх большасць, а толькі тых рамеснікаў, якія маюць халодныя сэрцы і працуюць па прынцыпу абыякавасці да чалавека).

Проста адна гісторыя ў калоніі вельмі ўразіла мяне сваёй незвычайнасцю. Мне паказалі сімпатычную жанчыну (было гэта ў доме дзіцяці) і паведамілі, што знаходзіцца яна ў калоніі за забойства мужчыны. Успрыняў я гэта даволі спакойна (да ўсяго прывыкаеш, асабліва калі гэта абрынаецца на цябе ў вялікіх колькасцях), але толькі здзівіўся, чаму так мала — 6 гадоў — атрымала тая жанчына за жудаснае злачынства. А мне растлумачылі: яна забіла мужчыну, які згвалціў яе дачку, прычым неўзабаве пасля таго, як ён зрабіў сваю агідную справу. Тады я спытаў: а чаму ёй далі так многа? Мне адказалі: калі б яна забіла мярзотніка ў той момант, як ён гвалціў яе дачку, то, напэўна, тэрмін пакарання быў бы ўмоўны. А паколькі «спазнілася», то і атрымала, як прынята чамусьці гаварыць, свае «паложаныя». Казуістыка, ды і толькі!

А працуе тая жанчына — Ніна Мікалаеўна К. — поварам у доме дзіцяці. Яна сама папрасілася туды. І гэта вельмі сімвалічна. Бо дом дзіцяці — гэта дом будучых надзей і ўжо сёння ў нечым разбітых лёсаў.

**НА ЗДЫМКАХ: зона...; «...люстра–люстэрка, скажы...»; першыя крокі на волю; грахі нашы цяжкія...Віка, Настачка і Крысціна нарадзіліся і жывуць у зоне; строем, разам — на работу!**

АКТУАЛЬНА

# ЯКОЕ ПЫТАННЕ – ТАКІ АДКАЗ

Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ, БелаПАН.

**Разгляд Вярхоўным Саветам пытання аб правядзенні рэферэндуму па далучэнню Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы перанесены на больш позні тэрмін. Аднак спрэчкі па фармулёўцы пытання, прапанаванай Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, пачаліся ўжо на сесіі парламента, якая нядаўна скончылася. І калі камусьці падалося, што гэтая праблема не настолькі важная, то ён памыляецца. Пацвярджэнне гэтаму — праведзенае Цэнтрам даследаванняў будучыні пры выдавецка-паліграфічнай кампаніі «Эрыдан» сацыялагічнае апытанне. Сярод мноства пытанняў два заслугоўваюць асаблівай увагі. Першае — па сутнасці паўтарэнне фармулёўкі, выносімай на рэферэндум Станіславам Шушкевічам: «Вашы адносіны да нейтралітэту Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмову ад уступлення Рэспублікі Беларусь у ваенна-палітычныя саюзы з іншымі дзяржавамі і іх аб'яднаннямі». З адказаў вынікае, што станоўча да нейтралітэту адносяцца 46,6 працэнта апытаных, адмоўна — 29,1 працэнта, 24,2 працэнта не адказалі. Амаль адразу ж пасля таго рэспандэнтам задаецца пытанне аб адносінах ідэі далучэння Беларусі да сістэмы калектыўнай бяспекі краін СНД (г.зн. фармулёўка пытання на рэферэндум, якую, насуперак фармулёўцы Станіслава Шушкевіча, будзе спрабаваць уключыць у бюлетэні для галасавання парламенцкая большасць). І тут адказы проста супрацьлеглыя: 42,7 працэнта адносяцца да гэтай ідэі станоўча, 15,7 — хутчэй станоўча, чым адмоўна, 5,9 працэнта — хутчэй адмоўна, чым станоўча, 16,6 працэнта — адмоўна, 18,7 працэнта не змаглі адказаць, 0,5 працэнта ўвогуле не далі адказу.**

**Такім чынам, ва ўяўленні людзей Дагавор аб калектыўнай бяспецы краін СНД і ваенна-палітычны саюз — гэта крыху розныя рэчы. Як кажуць, ёсць аб чым падумаць Станіславу Шушкевічу.**

**Дарэчы, Цэнтрам даследавання будучыні былі атрыманы звесткі і аб гатоўнасці насельніцтва да ўдзелу ў рэферэндуме. Згодна ім, цалкам гатовыя 51,5 працэнта апытаных, гатовыя пры ўмове пастаноўкі пытанняў, якія цікавяць насельніцтва, — 33,2 працэнта, не гатовыя — толькі 12,1 працэнта.**

РЕСПУБЛИКА

## Какой сенокос без армии

Добрые шефские связи установились между воинами-связистами и колхозом «Советская Белоруссия» Кличевского района Могилевской области. Вот и в горячую сенокосную пору по первому зову пришли на помощь сельчанам люди в погонах.

Подчиненные подполковника Петра Космынина прапорщик Петр Курган, рядовые Валерий Головко, Игорь Антоненко и другие работали по договору, заключенному командованием части и правлением колхоза. По условиям договора за солдатский труд колхоз расплатился сеном и фуражом, необходимым для подсобного хозяйства полка.

Связисты, на время переквалифицировавшиеся в аграриев, делом доказали, что им по плечу не только ремесло косарей, но и плотницкое: ферму, ими отремонтированную, хоть на торги выставляй.

Не внакладе осталась и боевая учеба, так как заготовка сена и прочие работы велись в ее перерыве.

## Кусаются цены, а не кошки...

**На этом аукционе продавцов было больше, чем покупателей, а начальная цена на некоторые «товары» такой и осталась, не поднявшись ни на один рубль. Может потому, что аукцион был не совсем обычный. Его организовал на этой неделе гродненский клуб любителей кошек «Мисс Багира», и представленным товаром, естественно, были котята.**

**Украшением аукциона стали три котенка персидской породы благородных окрасов — черепахового, голубо-кремового. Но ими лишь любовались, так как кусалась цена — 150 долларов за котенка. А потому желающих сделать своей семье живой пушистый подарок в Гродно не нашлось, хотя, по слухам, в Москве такие очаровательные создания продаются в два раза дороже.**

**Зато бойко шла торговля обычными беспородными домашними кошками — по... 300 — 400 рублей.**

## Вылетит в трубу дым

Новая отличительная черта появилась в облике Светлогорска — быстрорастущая стовосьмидесятиметровая дымовая труба, строительство которой ведется в соответствии с городской программой «Экология». Ввод трубы в действие позволит улучшить рассеивание выбросов и, следовательно, сделать более чистым атмосферный воздух над городом.

Кстати, за последний год выбросы в атмосферу от стационарных источников уменьшились почти в два раза.

## Катайтесь, ради бога

**Брестский горисполком не стал разорять представителей белорусской редакции «Трансмирового радио», расположенной в городе над Бугом.**

**Редакция ведет себя очень смиренно (все ее сотрудники — евангелистские христиане, и готовят передачи соответствующего содержания), хозяйственной и коммерческой деятельностью не занимается. А посему городские власти решили освободить «Трансмировое радио» от уплаты местного сбора (составившего 264 тысячи рублей) за полученный в качестве гуманитарной помощи «фольксваген».**

## Три жизни за сигарету...

Три загубленные человеческие жизни, сгоревшая дотла одна из комнат квартиры — таковы последствия ужасного пожара, случившегося в центре Новополоцка.

Трагедия в семье Решетниковых разыгралась вскоре после окончания семейного торжества по случаю получения 19-летней дочерью хозяина диплома об окончании медучилища и приезда из России родственницы. В третьем часу ночи разошлись спать захмелевшие гости, а уже в пять к пылающей квартире спешили пожарные. Они-то и обнаружили среди дыма и огня бездыханные тела жены, дочери и тещи хозяина...

Как было установлено в ходе предварительного следствия, причиной пожара стало курение в постели в нетрезвом состоянии.

**По сообщениям РИД.**

РЕЛИГИЯ

# Восточная Европа: если верить, то верить по-православному

Виталий ЧУЯСОВ, РИД.

С 30 июня по 4 июля в Греции в городе Салоники проходила международная конференция «Православие и его место в европейской действительности». В ней приняло участие большинство стран Восточной Европы, в которых, как сообщалось, проживает до 300 млн.православных верующих.

Два депутата белорусского парламента — Григорий Вечерский и Анатолий Лебедько, — представлявшие на этом форуме нашу республику, сразу по возвращении оттуда дали пресс-конференцию.

Народные депутаты сразу предупредили, что, рассказывая и отвечая на вопросы, будут выражать собственную точку зрения, однако нужно полагать, что именно их мнение по этому вопросу и будет формировать позицию нашего государства в отношении православия.

Ну, а сам вопрос смело можно отнести к разряду геополитических.

В Европе, как сказал депутат Лебедько, сложилась такая ситуация, когда с Запада надвигается «дуга» католицизма, а с Востока — ислам. Православие рискует быть зажатым в тисках этих фронтов, поэтому идея объединения православного мира является логическим шагом.

На греческой конференции много говорилось о положении на Балканах и войне в бывшей Югославии, где, кстати, наблюдается открытое противостояние мусульман и православных. На чьей стороне было подавляющее число участников встречи, догадаться нетрудно. Вообще же о балканском конфликте Анатолий Владимирович Лебедько высказался так: «Признание Македонии — явный «прокол» белорусского МИДа». (Напомню, сама Греция, где проходила конференция, категорически против признания Македонии как государства. В Афинах считают, что в дальнейшем это может привести их страны к обоюдным территориальным претензиям.)

В заключение пресс-конференции, отвечая на вопрос корреспондента РИДа, не видит ли народный депутат противоречий между стремлением восточноевропейских стран экономически и политически интегрироваться в Европейское сообщество, с одной стороны, и объединением их под флагом православия, с другой, Анатолий Лебедько сказал, что в Европе с распростертыми объятиями нас, как теперь стало ясно, не ждут. Православие же может стать тем объединяющим началом, которое приведет к созданию цельной Европы, сбалансированной двумя крупнейшими христианскими конфессиями.

